© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (1086) БЕЛАСТОК 19 СНЕЖНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.




*Чаго дамогся — не цікава,*
*Што збылося — драбната,*
*І слава, што была ласкавай,*
*Нібыта лашчыцца не так.*

*А мы праз славу ды праз тую*
*Зноў прагнем нейкіх новых дзіў —*
*Незадаволена прастуем*
*Шукаць, дзе шчасце нерастуе,*
*Дзе нехта радасць нарадзіў.*

*Бо нас хвалюе толькі тое,*
*Што недасяжнае якраз*
*І што, як промень, залатое*
*На небасхіле дражніць нас.*

*А дасягнеш — і ўсё збудзённіць:*
*Бы попел сеў на вугалёк,*
*Паблякне ўсё, што покуль сёння*
*Сяточна вабіла здалёк.*

*І ўсё ж мы далей прагнем свята —*
*Аж да апошняе мяжы.*
*І дамагаемся упарта,*
*Бо дамагацца — значыць жыць!*

**Янка Сіпакоў**

# ПРАЦА Ў СВАІМ АСЯРОДДЗІ

### II ПЛЕНУМ ГП БГКТ

28 лістапада ў Беластоку адбыўся II пленум Галоўнага праўлення БГКТ з удзелам намесніка старшыні Ваяводскай рады нарадовай, сакратара Ваяводскага праўлення прафсаюзаў Леакадзіі Зіневіч і прадстаўніка Ваяводскага камітэта ПАРП Аляксандра Сеўкі.

Распачаўся пленум уручэннем узнагарод. Сярэбраны знак „Заслужаны для Беласточчыны" Леакадзія Зіневіч уручыла членам гарадоцкага жаночага харавога калектыву БГКТ — Ірэне Паўлючук і Вользе Мядзведзевай, а таксама настаўніцы пачатковай школы ў Скупаве (гміна Нараўка) — Марыі Навіцкай. Медаль „20-годдзя БГКТ" быў уручаны: Янку Аляксеюку, Язэпу Альшэўскаму, Васілю Антыпюку, Лідзіі Бялецкай, Хведару Галёнку, Пятру Госціку, Янку Зенюку, Язэпу Навіцкаму, Уладзіміру Раеўскаму, Мікалаю Суліме, Галене Тапалянскай, Альжбеце Цаглярскай і Уладзіміру Юзвюку.

Затым старшыня ГП Мікалай Самоцік прачытаў даклад прэзідыума „Задачы і формы працы, вынікаючыя з пастановы VIII з'езду БГКТ, а таксама дапамога Галоўнага праўлення ў гэтай галіне". У зменenай арганізацыйнай структуры, калі ліквідаваны ў нас аддзелы, выкананне праграмных задач у асноўным будзе залежыць ад працы гурткоў, іх праўленняў і актывістаў. „Гурткі БГКТ, — гаварылася ў дакладзе, — павінны шмат зрабіць у галіне культурна-асветнай дзейнасці, павінны ў як найшырэйшай ступені заняцца папулярызацыяй беларускай культуры ў асяроддзі, якая з'яўляецца неад'емнай часткай культуры нашай краіны, павінны па прыкладу гурткоў у Меляшках, Арэшкаве і Тапчыкалах арганізоўваць мерапрыемствы, звязаныя з народнымі традыцыямі: вечарынкі, вяселлі, дажынкі і г.д.

У дакладзе прысвечана многа месца ўдасканальванню гурткамі ранейшых форм дзейнасці — аўтарскіх сустрэч з беластоцкімі літаратарамі, вечарын з нагоды розных гадавін, фэстынаў, мастацкай самадзейнасці і г.д. Асабліва падкрэсліваецца неабходнасць збірання і захавання беларускага фальклору, пашырэнне чытання беларускага друку.

Зразумела, што Галоўнае праўленне не звальвае гэтых вельмі важных спраў толькі на гурткі БГКТ. Яно само робіць і будзе рабіць многа арганізацыйных захадаў, каб наша культура належна ўспрымалася і развівалася ў беларускім асяроддзі. З гэтай мэтай будзе праводзіцца праца з грамадскім актывам, са старшынямі гурткоў БГКТ, з лектарскай групай.

БГКТ будзе яшчэ больш актыўна супрацоўнічаць з тымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі. ГП будзе супольна з ваяводскай бібліятэкай кожны год праводзіць чытальніцкі конкурс беларускай кнігі, а таксама адновіць супольнае арганізаванне семінараў для бібліятэкараў. А супольна з асветнымі ўладамі ГП наладзіць шырэйшы кантакт з дырэктарамі гмінных школ і настаўнікамі беларускай мовы, а таксама будзе рабіць захады, каб у Бельску на базе ліцэя з беларускай мовай навучання была ў будучыні створана 2-гадовая напрамкавая школа беларускай філалогіі. Будзе імкнуцца таксама забяспечыць школы праграмамі навучання, падручнікамі, мастацкай літаратурай і навучальнымі дапаможнікамі, арганізоўваць кожны год сярод вучняў дэкламатарскі і песенны конкурс.

(Працяг на стар. 4)



**У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ**

*Зіна Трэска, вучаніца Бельскага беларускага ліцэя выконвае ролю маці ў п'есе „Гарадскія госці" А. Барскага.*
*Фота Я. Цялушэцкага*




## НЕ ТОЛЬКІ ХЛЕБАМ І ПРАЦАЙ

Так, не толькі хлебам і працай жыве чалавек. Добра, што зразумелі гэта прафсаюзныя дзеячы і праводзяць шматмаштабны *агляд культурнай актыўнасці працоўных.*

На Беласточчыне асабліва заслужылася ў гэтай галіне **Леакадзія Зіневіч** — сакратар Ваяводскай рады прафсаюзаў.

Калі ў пачатку гэтага года яна знаёміла беластоцкіх журналістаў з багатай праграмай *агляду культурнай актыўнасці працоўных,* проста не хацелася верыць, што гэта будзе здзейснена, бо прывыклі мы да актыўнай дзейнасці дзеля мінутнага эфекту.

А тут — дзякуючы паслядоўнасці ў працы, дзякуючы асабістай энергіі Леакадзіі Зіневіч — гэтая багатая праграма добрых манераў цесна звянчалася з рэальным жыццём.

Найперш у беластоцкай кавярні „Прафсаюзная" („Звёнзкова") быў наладжаны цыкл культурна-грамадскіх мерапрыемстваў пад супольнай назвай *„Радаслоўныя, запісаныя працай".*

Замысел просты, як простым з'яўляецца ўсё, што культуру і навуку рухае мілёвымі крокамі наперад па шляху яе развіцця. Гэтыя *„радаслоўныя, запісаныя працай"*, сталіся нагляднымі ўрокамі нашай мясцовай беластоцкай гісторыі, урокамі нашых бясспрэчных дасягненняў. Бо вось на сустрэчу прыходзіць сям'я тэкстыльшчыкаў і з'яўляецца перад намі жывая гісторыя тэкстыльнай прамысловасці беластоцкай акругі, калі пра свой жыццёвы шлях апавядаюць нам пяць пакаленняў гэтай сям'і. Апавядаюць звычайна, як пражылі, чаго дабіліся, якім коштам здабывалі хлеб і працу. Можна ў іх запытаць пра ўсё, што толькі прысутным падабаецца, каб развеяць уласны недавер,

(Працяг на стар. 5)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"



# БЕЛАРУСКІЯ АКЦЭНТЫ Ў БЕЛАВЕЖСКІМ МУЗЕІ

Прыродазнаўчы музей БНП у Белавежы паказвае перш за ўсё флору і фауну Белавежскай пушчы. Але ёсць тут таксама многа іншых цікавых секцый, у якіх наведвальнік можа азнаёміцца з гісторыяй пушчы, з паляўніцтвам, з пушчанскай прамысловасцю. Вялікае зацікаўленне выклікае заўжды этнаграфічная секцыя, у якой можам убачыць шматлікія экспанаты — помнікі матэрыяльнай культуры беларускага народу. Сабраны яны ў асноўным па вёсках, сумежных з Белавежскай пушчай, а часамі і ў самой Белавежы. Цэлая секцыя падзелена на часткі. Самая галоўная — гэта вырабы з драўніны. І ад яе варта пачаць.

Як правіла, наведвальнікі найбольш увагі прысвячаюць тут плеценай баране, зробленай у 1920 г. Калінікам Якубюком з Чэхаў Арлянскіх, затым ступе з таўкачом, выкананай у 1890 г. Аляксандрам Федаруком з сяла Ваські, капаньцы, у якой калісьці мылі бялізну, адзежу ці нават купалі малых дзяцей. Цікавая таксама драўляная лапата, акаваная бляхай (з 1914 г.). Даставіў яе Шыман Шпаковіч з Белавежы.

Многа экспанатаў паходзіць з вёскі Рэпіскі. Толькі Архіп Тэляшэўскі даставіў 4 кадаўбкі і 1 драўляны посуд на гарох. Адзін з кадаўбкоў, т.з. чвэртка, зроблены аж у 1886 г., а крыху меншы ад чвэрткі — яшчэ ў 1865 г. Астатнія кадаўбкі датуюцца 1892 і 1912 гадамі, а посуд на гарох — 1913 годам. Варта сказаць і пра кадаўбок на мёд, зроблены ў 1905 г. Тарасам Федаруком, таксама з Рэпіскаў, кадаўбкі А. Садоўскага з Рыбакоў (1925 г.) і Нікіты Анапюка з Мора (каля 1890 г.). На выстаўцы паказана яшчэ 5 кадаўбкоў, ды ўжо выкананых па-сучаснаму.

Паказваецца таксама драўляная бочачка Н. Анапюка (зроб. у 1890 г.), драўляны посуд на ваду Клімента Чыквіна з Чэхаў Арлянскіх (1920 г.), рэзчык Васіля Данілюка з Сушчы (1947 г.), ляшчоткі (ціскі для воску) Трафіма Такаюка з Мікуліч (1897 г.), лапата для хлеба Яна Стоцкага з Лукі (каля 1920 г.), калаўрот Андрэя Гаўрылюка з Крыўца (1965 г.), драўляны таўкачык для бульбы Емяльяна Сегеня з Рэпіскаў (1943 г.), драўляны чарпак для разлівання стравы Паўла Буры з Бандароў (1897 г.), меру Станіслава Харкевіча з Слабодкі (1860 г.), ступку для солі Піліпа Цецюка з Макаркаў (1876 г.) і 2 ступкі Дзмітрыя Самоціка з Лукі (1918 г.) і Ксені Тарасюк з Койлаў (1860 г.). Варта таксама назваць ярмо, зробленае ў 1880 г. у Бандарах, драўляны кубак, такі ж цабэрчык і пасажную скрыню, выкананую ў 1961 г. у Гайнаўцы спецыяльна для музея.

Цікавіць турыстаў і частка, у якой паказваюцца пляцёнкі. Асабліва арыгінальна прадстаўляецца карзіна, зробленая каля 1850 г. Давідам Тапалеўскім з Клейнік, 2 кайстры з 1860 г., адна, сплеценая з лыка Кірылам Яконюкам, другая, з бярозавай кары — Янам Шыло (абодва з Койлаў), фаска — таксама з бярозавай кары — з 1923 г., выкананая Сцяпанам Пушынскім з Новай Луплян-

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ПРАЦА Ў СВАІМ АСЯРОДДЗІ

(Працяг са стар. 1)

Галоўнае праўленне будзе таксама рабіць захады, каб апрача беларускага календара штогод выдаваць адну літаратурную кніжку, а праз кожныя чатыры гады адзін літаратурны альманах.

Усе спамянутыя задачы павінны выконвацца побач са штодзённай добрасумленнай прафесіянальнай працай нашых членаў у сваіх установах і на гаспадарках. І вельмі важна, каб нашыя гурткі БГКТ былі ініцыятарамі грамадскіх пачынаў, каб акружалі яшчэ лепшай апекай грамадскую маёмасць, каб клеймавалі праявы вандалізму, каб дакладна разумелі, што сучасны патрыятызм павінен ісці ў нагу з памнажэннем матэрыяльных вартасцей, у тым ліку і вартасцей матэрыяльнай і духоўнай культуры.

У наступным годзе мы будзем святкаваць 60-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, і значная тут будзе роля Беларускага таварыства як прапагандыста польска-савецкай дружбы.

У дыскусіі выступілі: Міхась Вішанка, Леакадзія Зіневіч, Язэп Альшэўскі, Альжбета Цаглярская, Янка Зенюк, Хведар Галёнка, Аляксандр Баршчэўскі, Віктар Швед, Мікалай Суліма і Хведар Садоўскі. Ва ўсіх выступленнях адчувалася жаданне павялічыць дасягненні БГКТ ва ўсіх галінах яго дзейнасці.

Падсумаваў дыскусію старшыня ГП Мікалай Самоцік. Затым запрапанаваў ён склад камісій. Камісію культуры ўзначаліць Янка Зенюк. У склад яе ўвойдуць: Ніна Цыванюк, Віктар Швед, Ада Чэчуга, Валянціна Ласкевіч, Сяргей Лукашук, Анатоль Мартыновіч, Валянціна Мароз, Люба Гаўрылюк і Людміла Васілюк.

Камісія асветы будзе працаваць пад старшынством Аляксандра Іванюка ў наступным складзе: Сцяпан Трафімюк, Вольга Гарустовіч, Аляксей Карпюк, Уладзімір Сцепанюк, Галена Тапалянская, Пётр Зубрыцкі, Яніна Чэрнякевіч і Уладзімір Паўлоўскі.

Наступным пунктам парадку дня была інфармацыя сакратара ГП БГКТ Янкі Зенюка аб працы прэзідыума за перыяд ад VIII з'езду БГКТ і I пленума да II пленума ГП.

**Міхась Хмялеўскі**

(Працяг на стар. 1)

# БЕЛАРУСКІЯ АКЦЭНТЫ Ў БЕЛАВЕЖСКІМ МУЗЕІ

кі. Займальна выглядаюць таксама 2 бочкі і 1 каробка, выкананыя з саломы каля 1920 г. Ануфрыем Котам з Бельшчыны, кошычак з накрыўкай з 1920 г., зроблены Пятром Гербацэвічам з Катлоў, верша Юльяна Рубчэўскага з Цярэмкаў, арыгінальны кошычак з 1956 г. Сымона Лобача з Лукі, торба на хлеб з бярозавай кары, кошэль. Цэласць дапаўняюць 2 саламяныя каробкі і 1 ракітны кошычак.



*Фрагмент этнаграфічнай секцыі.*

У частцы керамікі, што знаходзіцца побач з пляцёнкамі, паказаны 3 гліняныя збанкі, 2 такія ж bунькі, 1 міска, 1 гаршчок і арыгінальныя гліняныя двайнячкі з накрыўкай, зробленыя ў 1891 г. у Пружане. Цэласць упрыгожвае вялікі здымак ганчара пры працы.

Ёсць у этнаграфічнай секцыі і частка, у якой наведвальнік можа ўбачыць адзенне жыхароў Белавежы і навакolля. Знаўца адразу скажа, што яно тыпова беларускае. У зашклёнай шафцы і дзвюх вітрынах паказваюцца кашулі (мужчынская і жаночая) з характэрнай крыжыкавай вышыўкай, хустка, саламяны капялюш, плеценыя лапці, мужыцкая куртка, жаночая спадніца і хвартушок, а таксама шлюбны чапец Тэклі Галёнка з Ласінкі (пашыты ў 1910 г.). Побач вітрын змешчана фотакопія эскіза „Белавежаначка" А. Камінскага з 1912 г.

Ля часткі з адзеннем ёсць частка з вялікімі здымкамі, на якіх паказана характэрнае ўпрыгожванне дамоў у вёсцы Махнатае і Старое Беразова. На іншых здымках можам убачыць пакрытую саломай хату ў вёсцы Макаўка, верх хаты ў Новаберазове, фрагмент дома ў Анцутах і калодзеж з жураўлём.

Беларускія акцэнты спатыкаюцца і ў секцыі бортніцтва. Адзенне бортніка ці яго прылады працы выяўляюць многа рыс нашай нацыянальнасці. Сам бортнік, паказаны на здымках, гэта беларускі селянін Філімон Вашкевіч з Белавежы. Здымак жыхара Белавежы (перад секцыяй бортніцтва) у мясцовым народным касцюме таксама прадстаўляе селяніна-беларуса Сцяпана Краўчука.

Тэкст і фота
**П. Байко**

# Ветэрынарная лячэбніца

У развіцці жывёлагадоўлі вялікую ролю адыгрывае ветэрынарная служба. Дзейнічае яна ўсюды там, дзе ёсць жывёла: у сялян, у СКР-ах, спулдзельнях прадукцыйных і ПГР-ах. Дзякуючы ветэрынарным спецыялістам, якіх штораз больш, амаль не існуюць такія хваробы дамашняй жывёлы, як туберкулёз, бруцэлоз, мыт і многія іншыя інфекцыйныя хваробы.

У Кляшчэлях ветэрынарная служба складаецца з трох чалавек: лекара Аляксандра Дэм'янюка, які з'яўляецца кіраўніком лячэбніцы, і двух ветэрынарных тэхнікаў — Анатоля Жыгулюка і Міколы Коціка. Чацвертая асоба з іх калектыву — Рыгор Верамеюк, які жыве ў Чаромсе і там выконвае заданні лячэбніцы.

Чацвёра ветэрынараў абслугоўваюць Кляшчэлеўскую, Чаромхаўскую і палавіну Дубіцкай гміны. Многа ўвагі яны ўдзяляюць прафілактыцы. Магчыма, таму ў бягучым годзе ў раёне іх абслугі не абнаружылася туберкулёза і бруцэлоза ў кароў. Дбаюць тут аб здароўі маладняка. Што датычыцца дойных кароў, дык гэтай дбайнасці не хапае ў саміх гаспадароў. Часта сустракаецца ў кароў запаленне вымені. Не стараюцца гаспадары, каб у хлявах было суха, каб карова не лягала ў мокры гной, які выклікае запаленне вымені.

Парасятам ветэрынары робяць па некалькі прафілактычных прывівак супраць анеміі і калібацылоза, а калі яны падрастуць — супроць ружы. На працягу года кляшчэлеўская ветэрынарная служба робіць такіх прывівак амаль 4 тысячы.

Істотнай справай ў захаванні здароўя жывёлы з'яўляецца рацыянальнае кармленне жывёлы і якасць кармоў, а таксама якасць штучных мяшанак. Вось таму час ад часу правярае іх кляшчэлеўская ветэрынарная служба. Кантроль неабходны і таму, што многія гаспадары, якія гадуюць свіней, не даюць жывёле вады, і часта свінні ад смагі п'юць гнаёўку, а тады хварэюць на жалудак.

Заданні лекара і ветэрынарных тэхнікаў — арганізоўваць прафілактычныя санітарныя мерапрыемствы, як, напрыклад, бяленне (вапнаванне) хлявоў-свінарнікаў, што абеззаражвае іх, як пабудова вокан і вентыляцыі.

Праводзіцца таксама барацьба з глістнымі захворваннямі. Датычыць гэта перш за ўсё буйных статкаў. У большым статку жывёлы, дзе яна мае беспасрэдны кантакт між сабою, праз корм, ваду, паветра хутчэй распаўсюджваецца інфекцыя.

У раёне абслугі кляшчэлеўскай ветэрынарнай службы ёсць буйныя авечкаводы, у якіх праводзіцца адматылічванне авец.

Кляшчэлеўская ветэрынарная служба паспяхова спраўляецца і з бягучымі паслугамі. На працягу года ў сярэднім праводзіцца кастрацыя 50 жарабцоў, 40 бычкоў, 50 кныроў і 30 бараноў. У сярэднім даводзіцца лячыць 60 штук кароў.

Коні хварэюць пераважна на ахват, найчасцей тады, калі яны не працуюць і стаяць у хлявах, а атрымоўваюць шмат кармоў, якія маюць многа вугляводаў (перш за ўсё авёс).



*Кіраўнік кляшчэлеўскай ветэрынарнай лячэбніцы — лекар Аляксандр Дэм'янюк.*

Аб Аляксандру Дэм'янюку людзі вельмі добра гавораць і як аб чалавеку і як аб спецыялісту. Працуе ён у кляшчэлеўскай лячэбніцы ад 1973 года, а яе кіраўніком з'яўляецца ад месяца лютага бягучага года.

Калі гаворыць ён аб сваёй працы, падкрэслівае той перыяд, калі быў на стажыроўцы ў Гайнаўцы: „Тады атрымаў я добрую практычную падрыхтоўку". Аляксандр Дэм'янюк — працавіты чалавек. Ён беспералынна павышае свае веды. Збіраецца напісаць доктарскую працу. Апрача таго, шмат часу прысвячае ён грамадскай працы. З'яўляецца членам гміннага праўлення Фронту адзінства народу, членам камісіі здароўя гміннай рады нарадовай і актыўным членам ЗСЛ.

Аляксандр Дэм'янюк з'яўляецца таксама чытачом нашага часопіса. Падпісчыкам „Нівы" быў ён ужо тады, калі вучыўся яшчэ ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Аб вучобе ў ліцэі засталося ў яго многа незабыўных успамінаў. З сардэчнасцю гаворыць ён аб сваіх былых настаўніках, а найбольш аб сваім выхавацелю, матэматыку Уладзіміру Рушуку, які, як ён сказаў, вывеў яго ў жыццё.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**

**Ці Вы ўжо падпісаліся на „НІВУ" ?**

# Беларуская літаратура

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА І

Вядомы беларускі празаік, гісторык літаратуры, публіцыст нарадзіўся ў сялянскай сям'і 6 (18) лютага 1893 года ў вёсцы Малая Багацькоўка Магілёўскай губерні. Родная вёска Гарэцкага знаходзілася каля сотні кіламетраў ад чыгункі. Пачатковую адукацыю атрымаў ён у вёсцы Вялікая Багацькоўка. Пасля вучыўся ў вёсцы Вольша. Заканчэнне вольшанскай школы давала яму права навучаць дзяцей у вясковых школах. Настаўнічаць, аднак, Гарэцкаму не давялося. У момант заканчэння школы ў Вольшы не было яму нават 16 год. Цяжка сабе ўявіць пятнаццацігадовага настаўніка ў тагачаснай школе, у якой вучыліся дзеці розных узростаў.

Маладога Гарэцкага, зрэшты, вабіла перспектыва далейшай адукацыі. Добра падрыхтаваўшыся, паступіў ён у 1909 годзе ў Горацкае каморніцка-агранамічне вучылішча, якое паспяхова закончыў у 1913 годзе. Пачалася праца мярнічага на Віленшчыне. Гарэцкі цэлыя месяцы праводзіць у вёсках, займаючыся землямернымі заняткамі.

Праз год быў ён прызваны ў армію. Служыў у артылерыйскай брыгадзе ў Вільні. У тым жа 1914 годзе пачалася першая сусветная вайна, і Гарэцкі быў уцягнуты ў яе страшэнны вадаварот. Яго брыгада прымала ўдзел у аперацыях на прускім тэатры вайны. У адным з баёў ён быў цяжка паранены і адпраўлены ў тыл на лячэнне. Выздараеўшы, зноў трапіў на фронт на Палессі.

У хуткім часе цяжка захварэў. Прайшоў праз многія госпіталі і камісіі. Паследствы хваробы аказаліся вельмі сур'ёзныя. У 1917 годзе Гарэцкі быў канчаткова звольнены з арміі.

Кастрычніцкая рэвалюцыя застала пісьменніка ў Смаленску. Гарэцкі пачынае працаваць у новых установах. Займаецца рэквізіцыяй прыватных кватэр для патрэб дзяржаўных устаноў і іх супрацоўнікаў.

Займаўся таксама публіцыстыкай, пішучы артыкулы ў рускую газету „Известия Смоленского Совета" і беларускую „Дзенніца".

Няўдачна закончылася спроба Гарэцкага вучыцца ў Смаленскім археалагічным інстытуце. Трэба было сумяшчаць шматлікія заняткі з вучобай. Урэшце прыйшлося інстытут пакінуць.

На самым пачатку 1919 года, пасля стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі, сакратар кампартыі Беларусі Кнорын запрасіў Гарэцкага ў Мінск. Прыехаўшы ў сталіцу Беларусі, пачаў ён працаваць у газеце „Звязда".

І тут наступіў радыкальны паварот у жыцці пісьменніка. У лютым 1919 года была створана Літоўска-Беларуская Рэспубліка. У сувязі з тым, што „Звязда" мела быць афіцыйным органам новых цэнтральных улад, Гарэцкі пераехаў у Вільню, якая стала сталіцай новай рэспублікі.

Ужо 21 красавіка 1919 года войскі Пілсудскага захапілі Вільню. Цэнтральныя адміністрацыйныя і палітычныя ўлады Літоўска-Беларускай Рэспублікі пераехалі ў Мінск. Аднак, Гарэцкі застаўся ў Вільні. Утрымоўваў кантакт з падпольным камуністычным рухам, рэдагаваў таксама беларускую дэмакратычную газету „Беларускія ведамасці". У пачатку 1922 года быў арыштаваны польскай паліцыяй і пасаджаны ў турму на Лукішках. Выйшаўшы з астрогу, пераехаў у Латвію, а ў канцы 1923 года — у Савецкую Беларусь.

Працаваў выкладчыкам у Беларускім універсітэце ў інстытуце беларускай культуры і ў Акадэміі навук БССР.

У перыяд культу асобы Гарэцкі быў беспадстаўна абвінавачаны ў вядзенні дзейнасці, накіраванай супраць Савецкай дзяржавы. Памёр 20 сакавіка 1939 года. Пасля XX з'езду КПСС пісьменнік быў ачышчаны ад закідаў і дзякуючы гэтаму вярнуўся на належнае яму месца ў гісторыі беларускай літаратуры.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

можна супольна выпіць чаёк і падзяліцца тортам.

Такіх сустрэч з рабочымі сем'ямі, *радаслоўныя якіх ад многіх пакаленняў запісаны былі працай*, Леакадзія Зіневіч наладзіла ўжо некалькі. Сустракаліся мы з сем'ямі калясьнікаў, ганчароў, друкароў, рабочых шклозаводаў і цаглянай вытворчасці. А за кожным разам з'яўлялася перад намі жывапісная гісторыя рабочага класа Беласточчыны.

✲

Адначасова пад сцягам прафсаюзаў былі праведзены іншыя культурна-асветныя мерапрыемствы. Між іншым, агляд культурнай дзейнасці сярод рабочых гайнаўскіх прадпрыемстваў і устаноў, а таксама рабочы фэстын у Чорнай Беластоцкай, які стаў сапраўдным святам цэлай гміны.

Нядаўна сустракаўся я з Францішкам Хлебусам, які з'яўляецца старшынёю прафсаюзнай рады фабрыкі сельскагаспадарчых машын у Чорнай Беластоцкай.

Сярод дрымучых лясоў на нашых вачах даўнейшая Чорная Весь перарадзілася ў 9-тысячны гарадок. Вось тут

# НЕ ТОЛЬКІ ХЛЕБАМ І ПРАЦАЙ

патрэба адначасовага развіцця прадукцыі і духоўнага ўзбагачэння штодзённага жыцця рабочых прывіваннем ім культурных патрэб — справа вельмі важная.

— Мы аб гэтым не забываем, — кажа мне старшыня Хлебус, — для прыкладу: двойчы праводзілі мы на фабрыцы павятовыя спаборніцтвы да конкурсу на найлепшае выкананне савецкай песні. У гэтым годзе наша фабрыка з'ўлялася арганізатарам ваяводскіх спаборніцтваў у рамках гэтага конкурсу. Дзеля польска-савецкай дружбы праводзім мы шмат іншых культурна-асветных мерапрыемстваў. Наладжваем груповыя экскурсіі ў Савецкі Саюз, арганізуем выстаўкі і гутаркі, якія знаёмяць нашых рабочых з жыццём нашых савецкіх сяброў, паказваем савецкія фільмы.

✲

Старшыня Францішак Хлебус расказваў мне яшчэ пра дзейнасць завадскога клуба тэхнікі, члены якога дзякуючы свайму тэхнічнаму вынаходству, сэканомілі звыш 5 200 зл. у пераліку на аднаго рабочага фабрыкі. Даведаўся я пра чорнабеластоцкіх спартсменаў, якія ў многіх галінах спорту не адпускаюць перадавых месц у Беластоцкай акрузе. Не адрываючыся ад працы, ўжо 420 рабочых фабрыкі здабыло дыпломы тэхніка машынабудавання ў час заняткаў у вячэрнім механічным тэхнікуме. Супольнымі намаганнямі ўсяго рабочага калектыву і жыхароў Чорнай Беластоцкай ствараецца зараз вялікі цэнтр адпачынку ў жывапісным кутку Букштэльскай пушчы, дзе можна будзе пагуляць, паплаваць і пакупацца.

✲

Не толькі працы і хлеба патрабуе чалавек для жыцця. Гэта факт. І таму ваяводская рада прафсаюзаў супольна з іншымі грамадска-асветнымі арганізацыямі зусім нядаўна наладзіла двухдзённую папулярна-навуковую канферэнцыю, у час якой абмеркаваны былі праблемы кшталтавання новых маральных і звычаёвых вартасцей на прадпрыемствах, у жылых пасёлках і ў сям'і. Канферэнцыя была вельмі павучальная.

(вр)

# Магчыма, стане спецыялізацыяй

Мілейчыцкая гміна, начальнікам якой з'яўляецца Мікалай Бартнічук, налічвае 21 вёску, у тым ліку 17 — гэта салэцтвы. Людзі тут гаспадарныя. Безупынна шукаюць новых дарог, якія б вялі да развіцця сельскай гаспадаркі. Але тут не ўсё ідзе аднолькава гладка, так як не аднолькава хутка плывуць рэкі, хаця ўсе яны называюцца рэкамі. З адным лепш, з другім горш. Ад некалькіх год пачынае тут заўважацца нейкі выпрацаваны напрамак дзейнасці.

У гміне на першае месца пачынае выходзіць жывёлагадоўля. Зразумела, да спецыялізацыі, беручы поўнасцю значэнне гэтага слова, яшчэ далекавата, але падкладка, трэба сказаць, добрая, ужо ёсць. Вось хаця б прыклад, які можа даць скупка жывёлы. План і выкананне ідуць амаль паралельна. За дзесяць месяцаў быў ён выкананы ў 98%. Адхіленні, як відаць, мінімальныя і пакуль што не такія яны істотныя. Гэта ж планы месячныя, а найважнейшае тое, што пакажа год. А дрэнна напэўна не будзе.



*Начальнік гміны ў Мілейчыцах Мікалай Бартнічук.*

Але вернемся да гэтай вядучай галіны. На першае месца выходзяць тут Клімковічы, Любейкі і хутар Паканева. У Паканеве паўстаў калектыў сялян: Свідэрскі Геранім, Зеляненўскі Чэслаў, Скшыцкі Казімір і Струсь Тадэуш (яго выбралі кіраўніком). Сяляне вырашылі спалучыцца тут у адну цэласць і заняцца жывёлагадоўляй. Гмінныя ўлады сустрэлі гэта з вялікім задавальненнем і дапамаглі скамплектаваць цэлую дакументацыю, патрэбную для пабудовы кароўніка на восемдзесят кароў. Другім прыкладам, падмацоўваючым сказанае, можа быць мясцовы СКР. Тут, аднак, справа выглядае інакш. Тут думку аб жывёлагадоўлі насунулі цяжкасці. СКР атрымаў 450 гектараў зямлі з дзяржаўнага фонду, якая ляжыць у ста кавалках. Заняцца толькі і выключна землеапрацоўкай — карысці не будзе. Занадта ж гэтая зямля раздробленая. І вырашылі на першы план паставіць свінагадоўлю, а апрацоўка зямлі пакуль што будзе як падтрымка задуманага. З думкай аб гэтым пачалі камплектаваць дакументацыю на пабудову аборы на чатыры тысячы штук свіней. Спадзяемся, што пройдзе некалькі год, і ў Мілейчыцах жывёлагадоўля стане спецыялізацыяй.

**М. Шаховіч**

фота Міхася Хмялеўскага

**Ф·А·Л·Ь**

СЯМЕЙ




*Ой, зышлісе мужыкі,*
*ой, зышлісе мужыкі,*
*говорылі об жонкі:*
*— Ой я пэршу жонку меў,*
*ой я пэршу жонку меў,*
*як на небі зорочку.*
*Я з пэршою дзеці меў,*
*я з пэршою дзеці меў,*
*а з другою годоваў.*
*А з другою годоваў,*
*а з трэцёю россылаў:*

Ад Вікторыі Шумарскай, год 80
пісаў 12 кастрычніка 1976 г. Міка
магнетафоннай стужкі Людмілы П

# ШТО НОВАГА Ў ГМІНАХ?

## БЕЛЬСКАЯ ТРЫКАТАЖНАЯ

У Бельску распачалася пабудова трыкатажнага прадпрыемства, якое тут было запланавана шмат гадоў таму назад, але не магло дачакацца паспяховай рэалізацыі. Будзе яно выпускаць дзіцячую вопратку на 70 мільёнаў злотых у год. Працаваць на гэтым прадпрыемстве будзе чатырыста чалавек, і, такім чынам, значна зменшыцца праблема забеспячэння працай бельскіх жанчын.

## РАСТУЦЬ РАДЫ ПАРТАРГАНІЗАЦЫЙ

У гміне Міхалова дзейнічаюць 44 пярвічныя партыйныя арганізацыі (ПОП), у радах якіх знаходзіцца 650 членаў і 63 кандыдаты партыі.

У Ціванюках 13-асабовая арганізацыя на працягу апошніх двух гадоў павялічылася на чатыры асобы. Немалая ў гэтым заслуга сакратара партыйнай арганізацыі Міхала Лук'янюка.

40-асабовая ПОП пры ГС у Міхалове прыняла ў свае рады пяць чалавек. Актыўным сакратаром гэтай арганізацыі з'яўляецца Анатоль Супронюк.

ПОП на тарфяным прадпрыемстве „Імшар" непадалёку ад Новай Волі налічвае 26 членаў. У апошнім часе прыбыло ў арганізацыю шэсць кандыдатаў партыі.

З дзевятнаццаці чалавек складаецца зараз ПОП у кааператыве сельскагаспадарчых гурткоў (СКР) у Міхалове. Павялічылася яна на пяць кандыдатаў. Дзелавіты сакратар — Сяргей Гарэнюк.

Вясковая партыйная арганізацыя ў Тапалянах павялічылася на пяць кандыдатаў і, такім чынам, у яе радах зараз сямнаццаць чалавек. Працу ў арганізацыі вядзе энергічная кіраўнічка, настаўніца па прафесіі Ніна Вазнеўская.

У рады адзінаццаціасабовай партыйнай арганізацыі на швейным прадпрыемстве ў Міхалове нядаўна ўступілі чатыры новыя члены. Гэтую перш за ўсё жаночую арганізацыю ўзначальвае сакратар Казімір Пракаповіч.

## ВОДАПРАВОД

Жыхары Міхалова (іх звыш 2 200 асоб) захацелі мець ваду з крана. Намнога ж лягчэй адкруціць кран, чым цягаць вёдрамі са студні. Да таго філіял аднаго з беластоцкіх жыллёвых кааператываў распачаў тут будаўніцтва жылых дамоў, да якіх неабходна адразу падключыць ваду з крана. У сувязі з гэтым гмінныя ўлады вырашылі пашырыць водаправодную сетку прынамсі да 15 кіламетраў і ахапіць ёю ўсё мястэчка. Зараз будова закончана. Водаправодная сетка падключана да чатырох глыбінных (артэзіянскіх) студняў і вады хапае ўсім.

Пабудова водаправода з'яўляецца апорай для каналізацыі, над пабудовай якой гмінныя ўлады ў Міхалове ўжо дзелавіта думаюць.

Варта дадаць яшчэ, што нядаўна ў Міхалове закончылася пракладка асфальтнага палатна на вул. Гарадоцкай — ад цэнтра мястэчка аж да малачарскага прадпрыемства і базы СКР. Рамантуецца рэстаран ГС-у.

## ЗВЫШПЛАНАВАЯ ПРАДУКЦЫЯ НА РЫНАК

100-асабовы рабочы калектыў швейнага прадпрыемства ў Міхалове кожны год перавыконвае свае прадукцыйныя планы. Займае лепшыя месцы ў спаборніцтве за зніжэнне сабекошту і павелічэнне выпуску прадукцыі. Іменна таму даручана яму экспартная прадукцыя, з рэалізацыяй якой яно паспяхова спраўляецца.

Міхалоўскія швеі шыюць рознае — паліто, піжамы, дзіцячую і мужчынскую бялізну, коўдры. У мінулым годзе ў гонар VII з'езду партыі яны скроілі і пашылі 320 мужчынскіх кашуль. Сёлета таксама адгукнуліся на заклік партыі і прэзідыума ўрада да павелічэння прадукцыі. Дружны жаночы калектыў выканаў грамадскі чын агульнай вартасцю ў 20 тысяч злотых. Працуюць тут грамадскім чынам і мясцовыя жыхары.

## УЗНАГАРОДЫ ЮБІЛЯРАМ

Гарадская і гмінная ўправа ў Супраслі прызнала юбілейныя ўзнагароды чатыром асобам, якім нядаўна споўнілася па 90 год. На ўрачыстай сустрэчы атрымалі іх дзевяностагодкі: Анна Раманоўская і Ян Куркоўскі з Супрасля, Анастасія Матэйчук з Агароднікаў і Уладзіслаў Вільчынскі з Варонічаў.

## БУДЗЕ ГМІННЫ ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ

Дагэтуль цэнтр здароўя ў Заблудаве знаходзіцца ў цесным памяшканні. Цяжкія тут умовы працы лекараў і сярэдняга персаналу. Ёсць аднак надзея, што гэтак будзе нядоўга. Побач выраслі сцены будынка, у якім з часам паселіцца гмінны цэнтр здароўя. У ім будуць працаваць дзве агульныя амбулаторыі, тры стаматалагічныя, дзве педыятрычныя ды гінекалагічная. Будзе 36 асоб медыцынскага персаналу. Гмінны цэнтр здароўя разам з вясковымі філіяламі будзе абслугоўваць 12 000 людзей.

Пра пабудову цэнтра здароўя найбольш клапоціцца доктар Мацей Заблоцкі. Дзякуючы яго арганізатарскім здольнасцям удалося знайсці патрэбную колькасць будаўнікоў розных прафесіяў сярод вясковых рамеснікаў ды сабраць неабходную колькасць будаўнічых матэрыялаў.

## БУДЗЕ СУЧАСНЫ РЭСТАРАН

Над ракою ў гмінным пасёлку Нараўка распачалося будаўніцтва гэсаўскага рэстарана на 200 месц. Памяшканне будзе мець таксама „атэльную" частку на некалькі дзесяткаў месц. Гэты аб'ект будзе спрыяць шырэйшаму развіццю турызму ў гэтым маляўнічым наваколлі. На будову прызначана 1 мільён 400 тысяч зл.

**Янка Цялушэцкі**



*Міхалова, вуліца Беластоцкая.* *Фота Я. Цялушэцкага*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

## Новыя крамы ў Бельску

Канец бягучага года ўзбагаціў горад Бельск новымі, прасторнымі крамамі. На вуліцы М. Бучка была адкрыта новая тэкстыльная крама, на вуліцы А. Міцкевіча — крама з садавінай і агароднінай, а па-суседску спажывецкая крама.

У будове знаходзіцца спажывецкі павільён на вуліцы 1 Мая і М. Навоткі. Усё гэта робіцца, каб аблегчыць пакупку гаражанам і жыхарам аколіц Бельска.

**Мікалай Няплоха**




### ЗДАЕЦЦА

Здаецца
гэта так проста
так проста
быць чалавекам
Здаецца
хопіць адно слова
адна ўсмешка
адзін позірк
О не
слова варожае
ўсмешка хітрая
позірк воўчы
Ці так мае быць
дзесьці ў душы чую
сардэчны смех
губы ціха шэпчуць
цёплыя словы
Адзін незнаёмы прахожы
кідае
ветлівы позірк

**Міша Андрасюк,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

* ✲ *

*і толькі шумам*
*дрэў*
*бязлістная сірата*
*сябра ветру*
*казыча пачуцці*
*мурлык-мурлык*
*па сэрцы*
*бо душы не мае*
*папіхае арэлі*
*дзіцячыя*
*кацячы матыў*
*мурлык-мурлык*
*расчараваўся немацатой*
*сам пагойдаўся*
*няма кошкі і вясны*
*адна восень*
*мурлык-мурлык*

**Ю. Хмялеўскі**

нулі сваю агентуру на разведку партызанскіх сіл. Атрымалі яны некаторыя дадзеныя і аб атрадзе „Сокалы". „У лагеры цяпер наступныя атрады: „Масквічы" — 50 чалавек, падрыўная група „Бязрукага" — 200 чалавек, усе дастаўлены сюды на парашутах...", — даносіў у штаб Готберга оберштурмфюрэр Хайс. Не было ў той час у „Сокалаў" двухсот чалавек, не ўсе яны, як вядома, былі дастаўлены на парашутах. Ды і базіраваўся атрад не зусім там, дзе ўказваў эсэсаўскі разведчык. У партызан была лепшая разведка.

Дзякуючы сваім разведчыкам партызаны і цяпер загадзя даведаліся пра планы гітлераўцаў, пра карную экспедыцыю гітлераўцаў супроць „Сокалаў", пра колькасць і ўзбраенне атрада карнікаў. Майстар раптоўных нападаў, нечаканых удараў з засад, Арлоўскі вырашыў і на гэты раз апярэдзіць праціўніка і арганізаваць яму „гарачую" сустрэчу далёка ад базы атрада.

Напад быў вельмі нечаканы, ён ашаламіў эсэсаўцаў, многія з іх, не паспеўшы зрабіць і аднаго стрэлу, былі забіты ці паранены, астатнія кінуліся ўцякаць.

Поспех засады быў поўны: 23 забітых, у тым ліку двух афіцэраў, і 9 параненых пакінулі карнікі на ўзлессі.

Але, на жаль, у гэтым баі загінуў і ветэран атрада „Сокалы" Іосіф Якубоўскі.

*(Працяг будзе)*

## Хуліганы

Яшчэ яны не перавяліся і даюць пра сябе знаць на розных одпустах, забавах. Нахлёбчуцца гарэлкі і дурэюць, ажно платы трашчаць. Хаця і нядрэнна міліцыя карае хуліганаў, аднак яны ніяк не каюцца.

Гаспадар плот ставіць не для хуліганаў, але яны першае, што робяць, гэта ломяць плот і са штахетамі ганяюць адзін аднаго.

Трэба вастрэй адносіцца да гэтага ўсім. Колькі разоў у дубіцкай калегіі каралі хуліганаў, ды пра платы ніхто чамусьці не хацеў і слухаць.

**М. Панфілюк**

## Сабачая справа

Ад пачатку лістапада на правым баку вуліцы Чырвонай Арміі ў Бельску, паміж чыгуначнай станцыяй і мастом на рацэ Белай ляжыць забіты сабака. Шмат людзей праходзіць сюдою на працу, у школу, праязджае шмат машын. І ўсе гэта бачаць. Але той, хто адказвае за парадак, не падумаў, каб забраць сабаку, ачысціць вуліцу. Трэба гэта зрабіць, як найхутчэй.

**Мікалай Няплоха**

## Каштуе, але выгада якая!

Цяпер мода на мураванкі. Хто сабе будуе дом, дык у плане мае таксама, якімі печамі будзе аграваць будынак і як з вадой. Ці хадзіць з вядром да калодзежа, ці мо як у горадзе... Дык вось мода ўжо гарадская: печ — цэнтральнае ацяпленне, вада — у хаце з крана.

У Дубічах Царкоўных паравое ацяпленне і ваду з крана мае ўжо 10 гаспадароў. Вядома, гэта каштуе (каля 60 тысяч зл.), аднак якая ж выгада!

**Мікалай Панфілюк**

## Усё практычна

У клубе „Практычная пані", што існуе пры ВСС „Сполэм" у Бельску, адкрылі фотагурток. Рабіць здымкі вучыць Аляксей Чыквін. Ён цікава і ўмела вядзе заняткі.

Тут жа адбываецца яшчэ навука танца, а на курсах „Добрай гаспадыні" і „Маладой гаспадыні" жыхаркі горада вучацца варыць і шыць.

**Іван Кірызюк**

## Калі будзе план?

У Бельску ў апошнія гады шырока развіваецца індывідуальнае будаўніцтва. Асабліва відаць гэта на ўскраіне горада, дзе выдзяляюцца пляцы для будовы. Напрыклад, цэлая вуліца Вашкевіча — гэта новыя, прыгожыя дамы.

Не ўсе, аднак, у каго ёсць фінансавыя магчымасці, могуць будаваць сабе дом. У такой сітуацыі знаходзяцца жыхары, якія жывуць у квартале горада паміж вуліцай Акжэі і Дубічы. Адзін з жыхароў расказаў мне, што ўжо некалькі год без вынікаў стараецца атрымаць дазвол на пабудову ўласнага дома. Паказаў мне ён цэлую папку карэспандэнцыі, якія напісаў і атрымаў ад гарадскіх і ваяводскіх улад. А дазволу дагэтуль няма.

Уся бяда ў тым, што няма апрацаванага плана загаспадарання гэтага раёна горада Бельска. План ёсць, але агульны, а дакладнага няма. Пакуль няма плана, нельга будаваць, бо яшчэ невядома, дзе планісты вызначаюць новыя вуліцы, а дзе месца на будаўніцтва. А людзі чакаюць і далей жывуць у старых хатах.

І што найважнейшае, невядома, калі план будзе і хто яго мае выканаць: гарадскія ці ваяводскія архітэктары. Можа ўлады нашага горада адкажуць бяльчанам на гэтыя пытанні? (лор)

## Віядук і іншыя

У Чаромсе ёсць шмат спраў, якіх не могуць рашыць мясцовыя ўлады. Напрыклад, чыгуначны віядук. Цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве тлумачыцца, што гэтую будову можна будзе пачаць рэалізаваць разам з пабудовай станцыі. Але гэта ж праблема нумар адзін для ўсіх жыхароў гміны! Гмінны і вузлавы камітэты ПАРП, гмінная ўправа не задаволіліся такім адказам і ўсе свае праблемы прадставілі ваяводскаму камітэту партыі і ваяводскай управе.

У заканчэнні хачу закрануць заўсёды актуальную справу нашых гандлёўцаў. Хоць крыху і папраўлялася ў гэтай галіне, аднак многа яшчэ трэба зрабіць. Лепш забяспечваць таварамі крамы, на час дастаўляць булкі, хлеб і малако і самае галоўнае — палепшыць адносіны прадаўшчыц да людзей. Бо лозунг „Кліент наш пан" пайшоў у Чаромсе ў забыццё.

**Ул. Сідарук**

## Як дастаўляюць „Ніву"?

Ужо трэці тыдзень, як ніяк не атрымаеш „Ніву" перад нядзеляй. Бывала і так, што „Ніву пісьманосец прынясе аж у сераду. Чаму?

На гэтую тэму мне давялося гаварыць з пісьманосцамі на пошце Трасцянка — Уладзімірам Андрэюком і Мікалаем Паланкевічам. Яны гавораць, што гэтыя апошнія разы заўсёды прывозяць меншую колькасць экземпляраў „Нівы" і начальнік пошты вымушаны штораз складаць інтэрвенцыю, каб дасылалі „Ніву". А пісьманосцы ў першую чаргу дастаўляюць „Ніву" ў школы з беларускай мовай навучання, бо там яна неабходная ў вучобе.

Бывала і так, што давезеная потым „Ніва" не заўсёды была апошнім нумарам, а замянялі старымі.

Варта, каб аб гэтым сур'ёзна падумалі адпаведныя ўлады і прысылалі „Ніву" ў Трасцянку на час. Тут людзі ўжо ў пятніцу выглядаюць пісьманосца. А нашым пісьманосцам няма кепскай пагоды. Іх штодзённа бачым у вёсках і за гэта ім падзяка.

**М. Лук'янюк**

## Дні савецкага фільма ў Бельску

Савецкія фільмы ў Бельску вельмі папулярныя. Дні савецкага фільма праходзілі тут ад 3 да 30 лістапада. Фільмы дэманстраваліся ў кіно „Зніч" на вуліцы 1 Мая. Ахвотных заўсёды многа. Днём найчасцей кіно запаўняла школьная моладзь, вечарамі — старэйшыя. Як кожны год, так і цяпер, у пачатку агляду кіраўніцтва правяло міні-конкурс. Датычыў ён ведаў аб Савецкім Саюзе. Вучні ахвотна адказвалі на пытанні, найлепшыя атрымалі кніжныя ўзнагароды. Найбольшую папулярнасць у гледачоў маюць ваенныя фільмы. Усім падабаліся фільмы „Разарванае кальцо" і „Партызаны Каўпака".

**Кветка**

✲

У кіно „Зніч" дэманстраваўся савецкі фільм „Партызаны Каўпака". У ім паказана дзейнасць гераічнага партызанскага атрада і яго камандзіра Сідара Каўпака. Зала кіно была біткам набіта.

Многія з бельскіх гледачоў добра памятаюць Пятра Вяршыгару, які са сваім атрадам дайшоў пад Мілейчыцы, Чаромху і Кляшчэлі. Я чуў, як адзін чалавек пасля фільма расказваў, як „каўпакоўцы" прыйшлі ў іх сяло, каб адпачыць пасля цяжкага бою пасля пераправы праз раку Буг.

Варта паглядзець фільм усім жыхарам паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, многія з іх памятаюць славутых партызан — „каўпакоўцаў".

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „АДКАЗ ДА ЧАГОСЬЦІ АБАВЯЗВАЕ", „Ніва" № 43 (1078) ад 24.X.76 г.**

Białostockie Przedsiębiorstwo Produkcji Leśnej „Las" w Białymstoku w odpowiedzi na notatkę umieszczoną w „Niwie" w sprawie budowy magazynu na wyroby ze słomy we wsi Wojnówka, uprzejmie informuje, iż istotnie zamierzaliśmy w/w budowę zakończyć w I półroczu br., jednak ze względu na ograniczenie inwestycji w roku 1976 i przyznanie limitu wyłącznie na zadania kontynuowane, ujęte planem inwestycyjnym, niestety nie byliśmy w stanie wywiązać się ze swojej obietnicy.

Obecnie przyznany limit na rok 1977 również ujmuje przede wszystkim zadania kontynuowane, niemniej będziemy czynili starania, by obiekt ten w roku 1977 doprowadzić do stanu pozwalającego na jego właściwe użytkowanie.

**Dyrektor Stefan Daszkiewicz**

**Да публікацыі: „РАМАНТУЮЦЬ, АЛЕ ЯК?", „Ніва", № 40 (1075) ад 3.X.76 г.**

Rejon Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim w odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w „Niwie" informuje, że ruch na drodze Hajnówka — Dubicze Cerkiewne faktycznie był wstrzymany na krótki okres czasu, w związku z remontem drogi, gdyż prowadzenie prac pod ruchem stwarzało niebezpieczeństwo dla pracujących ludzi oraz dla użytkowników drogi. Ruch pojazdów samochodowych odbywał się drogą objazdową z Dubicz Cerkiewnych przez Wojnówkę, Orzeszkowo do Hajnówki, dłuższą o około 10 km.

Odnośnie wstrzymania remontu Czytelnik nie ma racji, gdyż roboty polegające na odnowie nawierzchni przez powierzchniowe utrwalenie smołą i grysami zostały wykonane zgodnie z planem na długości 18,8 km tj. na odcinku Hajnówka — Dubicze Cerkiewne — Jelonka.

**Zastępca Dyrektora**
**Rejonu Dróg Publicznych**
**Włodzimierz Antoniuk**

**Да публікацыі: „БАЛАГАН", „Ніва", № 37 (1072) ад 12.IX.76 г.**

W odpowiedzi na notatkę krytyczną dotyczącą zamkniętego klubu we wsi Tarnopol zamieszczoną w Waszym czasopiśmie wyjaśniam, co następuje:

- klub „Rolnika" zorganizowano w miejscowości Tarnopol w 1972 roku,
- w latach 1972—1976 zdołano zorganizować jedynie jedną imprezę z udziałem miejscowej młodzieży o charakterze społeczno-wychowawczym olimpiadę pn. „Co wiesz o Kraju Rad".
- praca klubu opierała się na działalności handlowej, która na skutek małej frekwencji była znikoma (obroty od 2000—4000 zł miesięcznie). Zaznacza się że w Tarnopolu istnieje sklep spożywczy GS).
- koszt miesięczny utrzymania klubu (czynsz dzierżawny, opał, energia elektryczna) przekroczył miesięczną sumę 1 tys. zł.
- miejscowość Tarnopol położona jest na koloniach co utrudnia prowadzenie działalności kulturalno-oświatowej.
- brak jest chętnych kandydatów na stanowisko kierownika klubu.

Dlatego też biorąc powyższe fakty pod uwagę GS „Samopomoc Chłopska" w Narewce zmuszona była zawiesić działalność klubu „Rolnika" w Tarnopolu.

**Naczelnik Gminy**
**Józef Nowicki**

**Да публікацыі: „З ПАЧУЦЦЁМ АДКАЗНАСЦІ ЗА МАКУЛАТУРУ", „Ніва", № 39 (1074) ад 26.IX.76 г.**

W odpowiedzi na notatkę prasową opublikowaną na łamach Tygodnika Białoruskiego „Niwa" dotyczącej odbioru makulatury ze Zbiorczej szkoły Gminnej w Narewce, po zbadaniu sprawy na miejscu, uprzejmie wyjaśniamy, że opisana sytuacja nie wygląda aż tak rażąco.

Zebrana przez młodzież makulatura została jednok odebrana. Podczas prowadzenia w ustalonych terminach społecznej zbiórki złomu i makulatury przez szkoły, Gminna Spółdzielnia „SCH" podstawiła własny transport i odebrała zebrany surowiec do własnego punktu skupu.

Inna sprawa, że pracownik odpowiedzialny za obrót makulaturą pełni jeszcze czynności magazyniera skupu surowców włókienniczych i skórzanych i tym samym mogą zaistnieć nieregularności w odbiorze tego surowca.

Zarząd GS w Narewce wpłynie na zwiększenie operatywności pracownika odpowiedzialnego i zapewni sukcesywny odbiór zebranej przez młodzież szkolną makulatury.

**Dyrektor ZOR Z. Dobrzyński**

**Да публікацыі: „ЯК ЗНАЙСЦІ СПОСАБ НА СПОСАБ", „Ніва", № 42 (1077) ад 17.X.76 г.**

Izba Rzemieślnicza w Białymstoku uprzejmie informuje, że w dniu 15 listopada 1976 r. nasz przedstawiciel dokonał kontroli remontu szkoły we wsi Krzywiec, który był wykonywany przez Spółdzielnię Rzemieślniczą Rzemiosł Różnych w Hajnówce. W wyniku komisyjnej kontroli spisano notatkę służbową, której odpis załącza się do niniejszego pisma. W trakcie kontroli stwierdzono, że zarzuty przedstawione w artykule, zamieszczonym w nr 42/1077 z dnia 17.X. 1976 r. w tygodniku „Niwa" nie pokrywają się z rzeczywistością, czego dowodem jest fakt, że użytkownik — inwestor do zakresu wykonanych robót budowlanych, elektrycznych, wod.-kan. i stolarskich nie wnosi żadnych zastrzeżeń.

Należy stwierdzić, że osoba udzielająca informacji redaktorowi nie była zorientowana co do zakresu robót, zleconych spółdzielni.

Jednocześnie nadmienia się, że roboty dotyczące wymiany obróbek blacharskich i przekrycia dachu na szkole nie wchodziły w zakres zawartej umowy nr 35/75 z dnia 1.08.75. Bezinteresownie przedstawiciel Izby Rzemieślniczej wspólnie z wykonawcą ustalili tok postępowania, dotyczący zapobieżenia przeciekom w dachu pkt. 5 notaki służbowej.

Zastępca Prezesa Zarządu mgr. Mirosław Pańko

**NOTATKA SŁUŻBOWA**

Spisana dnia 15.XI.1976 r. na okoliczność sprawdzenia robót remontowo-budowlanych w szkole podstawowej w Krzywcu. Komisja w składzie: Kowalski Andrzej — dyrektor szkoły, Czepiel Mikołaj — przedstawiciel izby rzemieślniczej, Budka Włodzimierz — prezes spółdzielni rzemieślniczej. Wsiluk Jan członek spółdzielni rzemieślniczej, Romaniuk Jan — nauczyciel szkoły, stwierdziła co następuje: Dyrekcja Szkoły stwierdza, że do robót budowlanych, elektrycznych wodociągowo-kanalizacyjnych i stolarskich nie wnosi zastrzeżeń. Spółdzielnia Rzemieślnicza w Hajnówce do dnia 17 bm. pomaluje dwoje drzwi frontowych. Spółdzielnia rzemieślnicza poza zleceniem, pomaluje 10 sztuk drzwi do 21 bm. tzn IX. Komisja w powyższym składzie stwierdziła, że istnieją przecieki w dachu oraz na złączach obróbek blacharskich. W celu zapobieżenia przeciekom dachu należy wymienić obróbki blacharskie na nowe, oraz dokonać przekrycia dachu pokrytego eternitem na pokrycie blachą z nowym rozwiązaniem więźbi dachowej, ponadto należy rozważyć i rozwiązać sprawę tarasu, który aktualnie jest przyczyną zacieków. Na powyższe należy wykonać dokumentację projektowo-kosztorysową i zlecić do wykonania wykonawcy w trybie pilnym. Zakres robót objętych punktem 5, nie był objęty umową zawartą z dyrekcją szkoły gminnej w Narwi, a Spółdzielnią Rzemieślniczą w Hajnówce. Na tym notatkę zakończono i podpisano.

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Імпартгумар

# ДЗЕ Ж ЛОГІКА?

— Вы, безумоўна, зразумееце мяне, грамадзяне суддзі, я не мог яго не ўдарыць!.. Усе яго паводзіны былі безупыннай правакацыяй! Ён бесперастанна аказваў усялякія паслугі мне і маёй жонцы.

„Усё ясна! — сказаў я сабе. — Гэтыя двое настаўляюць мне рогі і цішком насміхаюцца з мяне!“

І ён і мая жонка былі знаёмы яшчэ перад тым, як я з'явіўся на сцэне. Абое запэўнівалі мяне, што яны „толькі сябры“. Павінен я верыць?! Зразумела, не! Напэўна паміж імі нешта было. Чаму ён так часта хадзіў да нас у госці? Чаму ў дні нараджэння рэгулярна рабіў падарункі мне, жонцы і дзецям?

Натуральна, я пачаў за ім назіраць. Калі ён прыходзіў, я забіраў дзяцей, выводзіў іх быццам бы на прагулку, а потым нечакана вяртаўся. І што я выяўляў? Ні-чо-га! Заўсёды заставаў іх або за гутаркай, або за чытаннем кнігі, або слухаючымі запісы класічнай музыкі!

Можа чалавек зрабіцца нервовым, я вас пытаю? У яго паводзінах не было ніякай логікі! „Можа, ён баіцца, што я нечакана з'яўлюся?“ — спытаў я сябе. І вось я сказаў ім, што еду ў дальнюю камандзіроўку і вярнуся толькі праз тры дні. Паехаў я, значыць, а на другі дзень раптоўна вярнуўся. І што я ўбачыў? Ні-чо-га!..

Тут нервы мае не вытрымалі, я яго і ўдарыў. А як не ўдарыць? Ён жа здзекваўся з мяне! Я выязджаю, ствараю абставіны, а ён замест таго, каб цешыцца момантам, павёў маіх рабят на прагулку! „Для таго, — гаворыць, — каб твая жонка магла спакойна рыхтавацца да экзамену“. Я забыў вам сказаць, што яна студэнтка-завочніца.

Няўжо я дзеля таго ехаў у камандзіроўку, каб ён маіх дзяцей на прагулку вадзіў? Ды гэта я і сам мог спакойна зрабіць!

Грамадзяне суддзі, сядзьце на маё месца! Вы ж яго павінны пакараць, а не мяне! Каб ён навучыўся сябе весці як трэба, а не дражніць чалавека!

Калі ўсе будуць дзейнічаць так нелагічна, ніколі не наступіць канец агіднасцям у маральным сэнсе слова!

**Бл. Калайджыеў**
(Балгарыя)



— Цяпер вы зразумелі, што я намагаўся вам сказаць?



**...Працы з яго імем прыеліся. Трэба было нешта рабіць — прыдумаў псеўданім.**

# НІЎКА



*На жаль, так бывае не толькі на арэне.*

### НА ЎРОКУ ХІМІІ

Выкладчык хіміі напісаў на дошцы: $HNO_3$, і спытаў у аднаго вучня:

— Якога элемента гэта формула?

— Круціцца на кончыку языка, а ўспомніць ніяк не магу, — адказаў вучань.

— Тады хутчэй выплюнь, інакш абпячэш язык, — сказаў настаўнік. — Гэта — азотная кіслата.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Жлобін і Ірэны Вашкевіч з Белавежы, Ірэны Васілюк з Чыхаў Арлянскіх і Ліліі Скепкі з Альхоўкі змяшчаем песню*

## NIEBO Z MOICH STRON

**muzyka: Seweryn Krajewski,**
**słowa: Krzysztof Dzikowski**
**śpiewają Czerwone Gitary**

Jest w oczach twych
kolor nieba z moich stron
jest słońca blask
cienie liści które drżą,
jest w myślach twych
miejsce wspomnień, które znam
są szepty traw
które giął letni wiatr
Więc zabierz mnie
do tamtych miejsc,
gdzie pędził czas
w rytm naszych serc.
a każdą z chwil
dał tylko nam:
tę dla mnie, dla ciebie,
tę dla mnie, dla ciebie...
Więc zabierz mnie
pod tamten dach,
gdzie pachnie chleb
gdzie cisza gra,
a każda z nut
brzmi tylko nam:
ta dla mnie, dla ciebie,
ta dla mnie, dla ciebie...
Jest w dłoni mej
miejsce na twą małą dłoń,
jak zamknąć mam
nasze życie w klatce rąk?
Jest w myślach mych
miejsce wspomnień, które znasz,
bo często w nim
gościsz tak, często tak.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ох, і колькі ж я сёння змог зрабіць?!

— А што менавіта?

— Адвёз скаты ў рамонт, прывёз цесляра, каб ён адрамантаваў вароты гаража, з'ездзіў за горад, прывёз запчасткі, заправіў машыну ля бензакалонкі і ўзяў яшчэ дзве каністры бензіну... Без асабістых „Жыгулёў“ ці ж я столькі паспеў бы зрабіць?!

✻

На пешаходным пераходзе ляжыць чалавек. Побач стаіць машына. Паліцэйскі дастае блакнот і пытае ў вадзіцеля:

— Расказвайце, як вы яго збілі.

— Я яго не збіваў. Я проста спыніўся і паказаў яму рукой, што ён можа прайсці. Бедны, напэўна так здзівіўся, што страціў прытомнасць.

✻

Дзяжурны па кухні пытае ў кухара пасля таго, як зняў пробу:

— Вы служылі ў арміі ў час вайны?

— Так точна, сэр, — адказвае кухар. — Быў кухарам, двойчы паранены.

— Вам пашанцавала. Проста здзіўляюча, як гэта вас не забілі.





### РОЦІК ХОЧА СПАЦЬ

Гледзячы тэлеперадачу, Элачка пачала пазяхаць.

— Час, дачушка, класціся спаць, — сказала мама.

— Не, гэта не я, а роцік хоча спаць, — вытлумачыла Элачка.

### ПАМЫЛКА

— Сёння спаткаў вашу жонку.

— І што яна сказала?

— Нічога.

— Гэта была не мая жонка, бо мая не можа маўчаць.

### ПРЫКАЗКІ З ПРАЦЯГАМ

„Не адным хлебам жыве чалавек“, — апраўдаўся браканьер, калі яго судзілі за забітага лася.

„Адзін у полі не воін“, — падумаў п'яны і здаўся арматам.

„Сэрца не камень“, — прызнаўся рэвізор прарабу, які яго частаваў, і выкрасліў з акта недастачу бутавага каменя.

„Не богі гаршкі лепяць“, — сказаў селянін, узяўшыся за ганчарны круг, бо ГС не завозіла посуду.





### А ДЗЕ Ж КОШКА?

Афандзі прынёс з базару пяць фунтаў мяса з салам і папрасіў жонку зварыць яму на вячэру тлустага наварыстага супу.

— Ды ледзь ён выйшаў з хаты, як жонка склікала сваіх сябровак і зрабіла для іх з таго мяса і сала пачастунак. Вечарам Афандзі вярнуўся. Не распальваючы пад катлом агню, жонка села каля печы.

Афандзі спытаў:

— Што ўсё гэта азначае?

Жонка адказала:

— Я выйшла да крынічкі па ваду, а кошка ўкрала мяса з салам, адразу ўсё з'ела і ўцякла.

Афандзі злавіў кошку, паклаў на вагу, зважыў і ўбачыў, што яна важыць роўна пяць фунтаў.

— О бязглуздая ашуканка! У гэтай шкуры вага паказала ўсе мае пяць фунтаў мяса і сала! А дзе ж кошка?

### ТАКІМ НАРАДЗІЎСЯ

*У сіберны вечар сцюдзёнай зімой*
*З каханай сустрэцца паехаў,*
*І снег, што хрысціў ледзяною крупой,*
*Здаваўся тады мне пацехай.*

*Затое з прастудай не дзень адляжаў,*
*І кплі няхлосна суседзі:*
*— І хто цябе ў непагадзь гэту пагнаў,*
*Нібыта не мог перасядзець?*

*Заўсёды, як што не па мне — на дыбы:*
*Кастрычнікам, бачыць, нарадзіўся...*
*...У лес незнаёмы папёрся ў грыбы,*
*І ў пушчы густой... заблудзіўся.*

*Аж цэлая вёска шукае, не спіць.*
*Назаўтра знаходзяць пад вечар:*
*— Няўжо ты дзе з краю не мог*
*пахадзіць,*
*А пёрся ў такую гушчэчу?*

*І як ні абходзіў нязведаны лес,*
*Разумным як быць ні стараўся,*
*А зноў у гісторыю новую ўлез:*
*У замужнюю я закахаўся...*

*Хаджу, як зачумлены, сонцу не рад,*
*Схуднеў. Дакараюць суседзі:*
*— Няўжо ты не мог каго выбраць*
*з дзяўчат?*
*І што ты ў замужняй угледзеў?*

*Дзіўлюся: як свет для мяне вельмі*
*строг,*
*Бо колькі ў ім не жыву я,*
*І што ні зраблю я: „Няўжо ты не мог?“*
*Заўсёды з папрокамі чую.*

*Нямала прайшоў я жыццёвых дарог*
*Калдобіну кожную помню...*
*Калі б абысці іх я хітранька мог,*
*Не знаю, ці лепей было б мне.*

**Алесь Бачыла**



— Можа ж, калі захоча!

### ІДЭАЛ

— Як вы ўяўляеце сабе ідэальную сакратарку? — спыталі ў дырэктара Дынамюка.

— Ёй павінна быць дваццаць год, і ў яе павінен быць трыццацігадовы стаж працы.





### ПАДЗЕЛ ПА-АМЕРЫКАНСКУ

Развод мужа з жонкай — наогул цяжкая справа. Зламалася сямейнае жыццё, перажываюць дзеці, не ведаючы з кім лепш застацца: з бацькам ці маці, перажываюць бацькі за дзяцей, за тое, дзе каму пасля давядзецца жыць, як набудаваць новы сямейны лад. А вось у багатых сем'ях гэта, як ні дзіўна, праходзіць прасцей.

Яўген Шнэйдар, які пражывае зараз непадалёк ад Нью-Йорка, не вельмі быў уражаны тым, што яго жонка пасля 33-гадовага сумеснага жыцця ўзбудзіла справу аб скасаванні шлюбу, хаця і не мог даказаць, што ён заўсёды быў верным мужам. Яго больш за ўсё цікавіла, як будзе падзелена хатняя маёмасць, і ён настойліва патрабаваў, каб яна была падзелена напалам. Але жонка прытрымлівалася іншага меркавання: не дзяліць маёмасць, а проста справядліва валацугу-мужа з дому. Тады, абражаны такім несправядлівым варыянтам, муж вырашыў зрабіць па-свойму: дзяліцца дык дзяліцца — каб нічога не заставалася ні ёй, ні яму. Дачакаўшыся, калі жонка пайшла на работу, Яўген Шнэйдар „папалавініў“ і дом, і ўсё, што было ў доме. Жонка вярнулася з работы і за галаву хапілася: уся мэбля і нават тэлевізар былі рассечаны папалам... тапаром. А муж, як ні ў чым не бывала, пазваніў адвакату жонкі, каб той прыехаў і засведчыў, што ўсё падзелена правільна.

А што ж прыйдзецца рабіць адвакату ў такім арыгінальным падзеле па-амерыканску?





**Іншы раз для таго, каб выйсці ў людзі, трэба ведаць куды перад гэтым увайсці.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020